

*Газета заснавана ў 1938 годзе. Адноўлена ў 1997 годзе.*

# Газета Слонімская





№ 48 (129). 25 лістапада — 1 снежня 1999г. ● **Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік. Распаўсюджваецца ў Слоніме, Зэльве, Дзятлаве, Мастах.** ● Кошт 40.000 руб.

# ЯНА МАРЫЛА СТАЦЬ НАСТАЎНІЦАЙ



**Як пісала "ГС", 16 лістапада ў Слоніме на праезджай частцы праспекта Незалежнасці ў непрытомным стане была знойдзена 18-гадовая Святлана Дубовік, якая праз паўтары гадзіны памерла ў рэанімацыйным аддзяленні бальніцы. Прычына смерці — шматлікія калецтвы і агульнае пераахаладжэнне арганізма.**

Дык што здарылася з маладой дзяўчынай?

Вось што паведаміла маці Святланы — Ніна Іванаўна Дубовік.

15 лістапада вечарам Святлана гасціла ў інтэрнаце фабрыкі мастацкіх вырабаў, дзе жывуць яе сяброўкі па працы Алена і Юля. Там жа яна сустрэлася і са сваім сябрам Дзянісам. І як гэта нярэдка бывае ў маладых людзей, Святлана пасварылася з Дзянісам, пасля чаго дзяўчына выйшла на вуліцу і села ў аўтамабіль да сваіх знаёмых. Што было далей, нам невядома.

А ўжо 16 лістапада ў 8 гадзін раніцы бацькам Святланы паведамілі пра яе смерць. У той жа дзень міліцыя затрымала трох маладых хлопцаў, якія падазраваліся ў злачынстве. Аднак праз некаторы час іх вызвалілі, бо высветлілася іх невінаватасць. Цяпер следства распрацоўвае іншую версію трагедыі.

Падчас размовы з карэспандэнтам "ГС" Ніна Іванаўна Дубовік паведаміла, што Святлана пасля 9 класаў паступіла ў Мірскае мастацкае вучылішча. Атрымаўшы дыплом, яна стала працаваць мастачкай па інкрустацыі з саломкі ў цэху сувенірнай фабрыкі мастацкіх вырабаў. Сваёй работай была задаволена. Святлана марыла стаць настаўніцай і рыхтавалася да паступлення ў інстытут.

**(Працяг на 2 стр.)**

# А ЧАЛАВЕК ПАМІРАЎ...

**Трагедыя, якая здарылася ў Слоніме ў мінулы аўторак, усхвалявала, бадай, многіх людзей горада. "Адмарозкі", удосталь паздзекаваўшыся над дзяўчынай, кінулі яе паміраць на праспекце Незалежнасці. Нармальнаму чалавеку цяжка асэнсаваць звярыны ўчынак злачынцаў. Будзем спадзявацца, што суд іх выявіць і вызначыць ім пакаранне адпаведна іх дзеянням.**

А вось як і па якому кодэксу можна ацаніць тое, што здарылася на тым жа самым праспекце Незалежнасці на наступны дзень у сераду 17 лістапада?.. Гэты выпадак застаўся незаўважаным для мясцовай грамадскасці і не набыў гучнага рэзанансу. Тым не менш, вось што расказаў карэспандэнту "ГС" жыхар Слоніма Валера, які па пэўных прычынах папрасіў не называць яго прозвішча.

"Апоўдні ў сераду з жонкай мы знаходзіліся на кухні, адкуль акно якраз выходзіць на праспект. Раптам я ўбачыў чалавека, які ляжаў на тратуары, а вакол яго мітусіліся людзі. Нехта спрабаваў спыніць машыну, але легкавушкі толькі на хвіліну прытарможвалі, потым імчалі далей. Без сумнення было бачна, што нейкаму мужчыну патрабавалася медыцынская дапамога. Я пазваніў на станцыю хуткай дапамогі і паведаміў пра гэта, а жонцы сказаў, каб пайшла і паглядзела — у чым там справа. Праз некалькі мінут на кватэру пазваніла супрацоўніца са службы "03". Рэч у тым, што калі я званіў туды, у мяне запатрабавалі мой нумар тэлефона. Жанчына даволі дэталёва пачала распытваць — што і як? Мне ў чарговы раз прыйшлося расказаць пра тое, што адбываецца на праспекце і папрасіць, каб не марудзілі і хутчэй ехалі дапамагчы чалавеку. У адказ яна стала праводзіць допыт: "А чаму менавіта я званю, а больш ніхто, а можа я проста жартую?.." А потым увогуле сказала, каб я пайшоў паглядзеў, што там здарылася, а потым вярнуўся, пазваніў і расказаў ім. Урэшце я не вытрымаў і паклаў трубку. Зноў зірнуў у акно і ўбачыў, што дамоў ідзе жонка і жэстам паказвае, што чалавек памёр. Крыху пазней пад'ехала і "хуткая".

Жонка прыйшла расхваляваная. Яна сказала, што калі падышла да мужчыны, то там дзве жанчыны спрабавалі яму неяк дапамагчы. Адна з іх, у белай шубцы, сказала, што рукі ў яго цёплыя і што ён дыхае. Жанчына дастала і паглядзела пашпарт, мужчыну было 40 гадоў. Аднак яны толькі круціліся вакол чалавека, не ведаючы, што рабіць. Карацей, мужчына ляжаў на вуліцы і паміраў, а ў той час медыкі з "хуткай дапамогі" вызначалі мяне на прадмет ілжывасці..."

Такая вось смерць напаткала чалавека сярод белага дня на праспекце Незалежнасці.

**Валодзя ЯНЧУК**



## ЗДАРЭННІ

### Смерць пад коламі

**Вечарам, 21 лістапада, на 46-ым кіламетры дарогі Баранавічы — Слонім пад коламі грузавіка загінуў 83-гадовы жыхар вёскі Новая Стража Слонімскага раёна.**

Як стала вядома, грузавы аўтамабіль, які належыць Слонімскаму мясакамбінату, у гэты вечар вяртаўся з Мінска. Непадалёку ад вёскі Новая Стража вадзіцель аўтамабіля не заўважыў мужчыну, які ішоў у накірунку Слоніма па праезджай частцы дарогі з 13-гадовым унукам. Мужчына ад атрыманых калецтваў памёр на месцы здарэння. На шчасце, хлопчык не пацярпеў.

### Засталася без ботаў

**Жыхарка О. з вёскі Жыровічы Слонімскага раёна паведаміла ў міліцыю, што ў яе доме пабываў злодзей.**

Пра гэта яна даведалася пасля таго, як, збіраючыся ехаць у Слонім, не знайшла сваіх зімовых ботаў, а пазней выявіла, што ў яе зніклі і залатыя вырабы.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

## НАВІНЫ

### У вёску — пешшу?

**У мінулыя выхадныя са Слоніма не выехаў ні адзін прыгарадны аўтобус.**

— Прычына адна — няма бензіну, — сказаў дырэктар аўтапарка №3 Уладзімір Нікалаеў. У той жа час дырэктар нафтабазы Міхаіл Салавей паведаміў, што Слонімскі аўтапарк №3 за гаруча-змазачныя матэрыялы павінен нафтабазе больш за тры мільярды рублёў. — Будуць своечасова плаціць — будзе бензін, — сказаў Міхаіл Салавей.

І ўсё ж, як дабрацца сёння людзям у вёску?

**Сяргей ЧЫГРЫН**

### "Забаву" палюбілі ў Ялце

**На Другім Міжнародным конкурсе "Крым. Пладовае віно-99", што адбыўся ў Ялце, галоўны прыз прысуджаны моцнаму віну "Забава". Гэты напітак выпускае Дзятлаўскі вінзавод.**

На гэтым конкурсе вызначыўся і Слонімскі вінзавод. Прадпрыемства атрымала тры залатыя медалі за чырвонапарэчкавае віно, "Арыну" і "Мінскае бурштынавае".

**Сяргей ЧЫГРЫН**

### На 5 долларов меньше

**В октябре этого года размер средней начисленной заработной платы рабочих и служащих — по сравнению с сентябрем — снизился с 46 до 41 доллара США в пересчете по рыночному наличному курсу.**

Снижение зарплаты на 11% произошло, несмотря на повышение в октябре минимальной заработной платы и тарифных ставок.

По данным Министерства статистики и анализа, в рублевом выражении зарплата рабочих и служащих в октябре увеличилась на 18,8% по сравнению с сентябрем (с 24 миллионов 225 тысяч 507 до 28 миллионов 771 тысяч 323 рублей).

### Типичная тоталитарная страна

**"Беларусь — типичная тоталитарная страна, поскольку люди здесь пассивны в изучении и защите своих прав, позволяя государству угнетать себя", — отметил Г.Дайсон, руководитель Центра управления конфликтами и менеджер Международного исследовательского института по проблеме миротворчества.**

Его удивила позиция многих оппозиционно настроенных молодых людей, которые связывают позитивные изменения в стране с проведением парламентских и президентских выборов. "Выборы — это лишь малая часть демократического процесса, — сказал он. — Я удивлен, почему такое большое значение уделяется выборам, а не изменению социально-политических процессов между ними".

**БелаПАН**

## Паважаныя сябры!

Працягваецца падпіска на "Газету Слонімскую" на 1-ае паўгоддзе 2000 года. Кошт падпіскі на 1 месяц – 200 тыс. руб. Падпісны індэкс – 64042. На "ГС" могуць падпісацца жыхары Слонімскага, Зэльвенскага, Мастоўскага і Дзятлаўскага раёнаў.

**Увага! Падпіска!**

## НАВІНЫ

### Инфляция увеличивает квартплату

**В Беларуси с инфляцией каждый месяц повышаются квартплата и тарифы на коммунальные услуги. Повышение происходит за счет индексации.**

— Если в сентябре за квадратный метр общей площади вместе с индексацией мы платили 1.618 рублей, то уже в октябре – 1.726 рублей. Так будет и в последующие месяцы, — сказала корреспонденту "ГС" заместитель директора Слонимского ПО ЖКХ Нина Гончарик.

### Зноў падаражэлі нафтапрадукты

**З 20 лістапада ў Слоніме, як і па ўсёй Беларусі, зноў падаражэлі гаруча-змазачныя матэрыялы.**

Гэта карэспандэнту "ГС" пацвердзіў дырэктар Слонімскай нафтабазы Міхаіл Салавей. Ён сказаў, што па новых цэнах адзін літр 76-га бензіну каштуе 140 тыс.руб., 92-га – 190 тыс.руб., 95-га – 249 тыс. руб., дызпаліва (летняе) – 120 тыс. руб. за літр, дызпаліва (зімняе) – 122 тыс. руб.

Нагадаем, што апошняе падаражанне нафтапрадуктаў адбылося сёлета 30 кастрычніка.

**Сяргей ЧЫГРЫН**



### Фестываль сямейнай творчасці

**У Мастах прайшоў трэці абласны фестываль сямейнай творчасці.**

У ім прынялі ўдзел 74 мастацкія калектывы вобласці. На працягу двух дзён (20-21 лістапада) глядзельная зала Мастоўскага раённага дома культуры была запоўнена. Было паказана шмат арыгінальных і высокамастацкіх нумароў. Большасць з іх складалі беларускія народныя песні, песні беларускіх аўтараў ды кампазітараў. Удала выступілі прадстаўнікі Слонімшчыны. Гэта два калектывы: сям'я Мелкумян (жонка Дар'я, муж Сяргей, кума Надзея Ткачук) і сям'я Ягоўдзікаў (маці Аляксандра, нявестка Тамара, пляменніца Марыя Лазовік, кума Наталля Філіповіч, хрэсніца Ала Баравік). Усе яны сталі лаўрэатамі фестывалю. Сярод іншых лаўрэатамі сталі два калектывы з Мастоўшчыны: сям'я Мішурыных ды сям'я Шапялевічаў. Яны, як і іншыя лаўрэаты, заваявалі права ўдзельнічаць у трэцім рэспубліканскім фестывалі сямейнай творчасці, які адбудзецца ў пачатку 2000 года ў Слоніме.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

### Акцыя супраць саюзнай дамовы

**Як вядома, у пятніцу, 26 лістапада, у Маскве будзе падпісана беларуска-расійская "саюзная дамова". З гэтай нагоды слонімская Рада БНФ "Адраджэнне" правядзе "улёткавую акцыю".**

Па словах старшыні Рады БНФ Івана Бядко, актывісты арганізацыі ў гэты дзень распаўсюдзяць у Слоніме ўлёткі, галоўным зместам якіх будзе антысаюзная рыторыка. "Многія слонімцы выступаюць супраць аб'яднання Беларусі з Расіяй, якое прынясе нашаму народу толькі вайну, голад, галечу і тэрарызм. Мы не хочам, каб нашыя дзеці сталі заложнікамі палітыкі сённяшніх уладаў Беларусі", – сказаў Іван Бядко.

**Алег ТАЧОНЫ**

### Задолжали бюджету

**Высокой остается задолженность субъектов хозяйствования Гродненской области перед бюджетом — на 1 ноября она составила 200 миллиардов рублей.**

Еще в июле по решению облисполкома при горрайисполкомах были созданы рабочие группы по контролю за выплатами в бюджет, в которые вошли работники экономических служб исполкомов и налоговых органов. Им удалось добиться снижения задолженности по платежам в бюджет, которая на 1 июля составляла 280 миллиардов, а на 1 октября – 215 миллиардов рублей. Но выплаты платежей в полном объеме достичь не удалось.

**Ася КУНИЦКАЯ**

# ЯНА МАРЫЛА СТАЦЬ НАСТАЎНІЦАЙ

**Карэспандэнт "ГС" апытаў жыхароў Слоніма на прадмет таго, што яны думаюць наконт забойства Святланы Дубовік. Вось што яны сказалі:**

**Ніна Быцко**, былая работніца быткамбіната:

– Я была так усхвалявана, калі даведалася пра смерць Святланы, што ў мяне з вачэй каціліся слёзы, хоць ніколі яе не ведала. Сёння мне страшна за сваіх дзяцей, калі я ўяўляю, што і з імі можа здарыцца нешта падобнае. Жудасна ўспрымаць, што ў горадзе адбываюцца страшэнныя злачынствы, а вінаватых не знаходзяць.

**Максім Елісееў**, малады слонімец:

– Гэтае здарэнне мяне ўзрушыла да глыбіні душы. Мне становіцца жудасна ад думкі, што такое магло здарыцца і з маёй малодшай сястрой, якая ў той вечар таксама гуляла ў горадзе. Святлана вядома ж не хацела паміраць. Гэтае злачынства павінна быць раскрыта, а забойцы панесці суровае пакаранне. Інакш сярод насельніцтва Слоніма пачне ўзмацняцца думка аб безабароннасці перад злачынцамі.

**Яўгенія Караленя**, хатняя гаспадыня:

– Сёлета ў Слоніме гэта ўжо не першы выпадак забойства маладой дзяўчыны. Мне становіцца страшна ісці адной вечарам па вуліцы. На мой погляд, злачыннасць у горадзе расце з кожным днём. І калі міліцыя не паставіць ёй заслон, то падобныя трагедыі будуць здарацца надалей.

***Ірына Быцко***, ветфельчар:

– Я не выключаю, што Святлану нехта бачыў яшчэ да таго часу, як патэлефанавалі ў міліцыю. Аднак прайшоў ці праехаў міма. Можа, калі б пацярпеўшую хоць на некалькі гадзін раней даставілі ў бальніцу, то яна і сёння была б жывая.

***Марыя Сушко***, пенсіянерка:

– Забіць маладую дзяўчыну – гэта вялікая жорсткасць. І тых асоб, якія зрабілі гэта, нават нельга называць людзьмі. Відаць бацькі ніколі іх не вадзілі ў храм і не прывілі ім з маленства такія чалавечыя пачуцці, як любоў, дабрыню і павагу да людзей. І чым так дзяўчына правінілася, што яе пазбавілі жыцця?

***Андрэй Юркевіч***, студэнт:

– Кожны выпадак гвалтоўнай смерці чалавека не можа быць звычайнай з'явай. Асабліва жудасна, калі пазбаўляюць жыцця маладую дзяўчыну – будучую маці. Цяперашнія людзі так выхаваны, што для некаторых падняць руку на чалавека становіцца нормай. І я лічу, што гэта следства выхавання.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

АКТУАЛЬНО

# ГОСУДАРСТВЕННЫЙ СПОСОБ ИЗЪЯТИЯ ДЕНЕГ

Сегодня, как известно, правительство, придерживаясь "мягкой" денежно-кредитной политики, широко использует для изъятия денег так называемый инфляционный способ. Способ изъятия денег при таком налоге, наверное, самый простой для государства и незаметный и разрушительный для населения. Суть его заключается в том, что правительство печатает и пускает в обращение большое количество не обеспеченных товаром денег. В результате денег становится все больше, а товаров все меньше, что приводит к снижению покупательской способности национальной валюты и росту цен на товары. То есть неизбежная при такой политике инфляция съедает накопления и населения, и предприятий. К примеру, если вкладчик 1 января положил на сберкнижку 1 млн. руб. сроком на девять месяцев под 100% годовых, то 1 октября имел полное право получить с учетом набежавших процентов не менее 1750000 рублей. Кажется – выгода налицо. Но это было бы так, если бы в стране не было инфляции и не росли цены. Однако за девять месяцев их рост составил 136,7%. С учетом этого, покупательская способность 1,75 млн. рублей 1 октября оказывается меньше, чем 1 млн. руб. в январе, хотя номинальный размер вклада увеличился на 750 000 рублей. Иными словами вкладчик 1 октября за 1,750 млн. рублей мог купить столько товаров, сколько их было бы возможно купить 1 января за 740 000 рублей. Получается, что государство в течение девяти месяцев пользовалось деньгами вкладчика в своих интересах и еще взяло за это 26% {(1млн.руб.-740 000):1млн.руб.*100%}. Вот вам и действующая в этом году ставка инфляционного налога, по сути, являющаяся ценой, которую люди платят за некомпетентность нынешней власти. Естественно, люди пытаются избежать потери своих активов, стремясь как можно быстрее избавиться от белорусской валюты путем покупки товаров и приобретения валют других стран, которые не занимаются "порчей" собственных денег. Так происходит кредитование экономик этих стран нашей страной, а наше правительство получает в обмен на свою неразумную экономическую политику расцвет черного рынка, коррупцию, сокращение поступлений в бюджет, обнищание людей и множество других негативных последствий.

**Владимир БАШАРИМОВ, депутат Верховного Совета Республики Беларусь 13-го созыва, председатель Комиссии по бюджету, налогам, банкам и финансам**

ЗДАРЭННІ

## Дзіўны крадзёж

**У аднаго з жыхароў вёскі Навасёлкі Мастоўскага раёна знік матацыкл.**

На наступны дзень супрацоўнікі міліцыі выявілі злодзея і знайшлі ўкрадзеную тэхніку, якая была схавана ў стозе саломы.

Высветлілася, што злодзей на матацыкле праехаў 300 кіламетраў, хоць жыве ён у суседняй вёсцы Асаўляне, усяго ў некалькіх кіламетраў ад Навасёлак. Цікава, што пацярпелы ведаў прычыну крадзяжу. Гаспадар матацыкла меў запасычанасць у хлопца з Асаўлян, але грошы не вяртаў. Тады апошні папярэдзіў яго, што скрадзе матацыкл, што і зрабіў.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

## Рэкет па-мастоўску

**Некалькі асобаў у масках уварваліся ў кватэру мастаўчаніна К. і запатрабавалі грошы.**

Каб дасягнуць мэты, пачалі катаваць гаспадара гарачым прасам. Адзінае, што здолелі бандыты адабраць у чалавека, гэта 10 мільёнаў беларускіх рублёў. Па дадзенаму факту ўзбуджана крымінальная справа.

**Антон МАКЕЙ**

## Апошні дзень нараджэння

**Жыхар пасёлка Гезгалы, што ў Дзятлаўскім раёне, адзначыў свой апошні 26 год з дня нараджэння.**

Па невядомых прычынах, на другі дзень пасля ўрачыстасці ён павесіўся ў сваёй кватэры. Сіратою засталася 2-гадовая дачушка.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

## Загінуў у агні

**Днём 21 лістапада ў вёсцы Гуменікі Слонімскага раёна загарэўся дом. У агні загінуў яго гаспадар, 70-гадовы Павел Хрэшчык.**

Як паведамілі карэспандэнту "ГС" у інспекцыі пажарнага нагляду, пажар узнік ад тлеючай вопраткі, якая сушылася на газавым катле. Павел Георгіевіч і яго жонка Ганна Іванаўна ў гэты час кармілі хатнюю жывёлу, а калі вярнуліся ў дом, то ўбачылі, што на кухні палае агонь. Падчас спробы патушыць пажар Павел Хрэшчык страціў прытомнасць і загінуў у агні, а яго жонка паспела выратавацца.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

## Печ — прычына пажару

**Своечасова патушылі пажарныя агонь, які ахапіў дом Генадзя Панасіка з вёскі Бародзічы Зэльвенскага раёна.**

Абгарэла кухня, а таксама столь і шпалеры ў іншых пакоях. Прычынай пажару стала пакінутая без нагляду запаленая печ.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

# ЛЮДЗІ БАЯЦЦА БАЛКОНАЎ

**Гэта гісторыя пачалася больш шасці гадоў назад. У цэнтры Слоніма, на чацвёртым паверсе дома № 20, што па Чырвонаармейскай вуліцы, раптоўна абваліўся балкон...**

Марыя Міхайлаўна Дзеравяннік, якой цяпер 72 гады, так апісвае тое здарэнне:

– Я – інвалід другой групы. У асноўным знаходжуся дома, толькі што выходжу падыхаць паветрам на балкон... У той дзень, як звычайна, я выйшла на балкон, пастаяла, а пасля перайшла на яго левы бок. Як ён абарваўся, я не помню – згубіла прытомнасць. Пліта стала паралельна сцяне, а жалезная агароджа – гарызантальна. І я апынулася ў своеасаблівай клетцы. Ратавалі мяне пажарныя...

Марыя Міхайлаўна расказвае, што пасля таго здарэння прыходзілі людзі з гарвыканкама і з домаўпраўлення. "Калі вы мне балкон зробіце? – пыталася ў іх Марыя Дзеравяннік. Начальства абяцала: "Зробім, зробім". Сапраўды, парэшткі балкона хутка прыбралі, і на гэтым – усё. Ідзе ўжо сёмы год, а зруху няма. Увесь гэты час Марыя Міхайлаўна ходзіць па інстанцыях, каб аднавілі балкон, але кожны раз ёй гавораць, што "няма грошай". Неаднойчы гэтыя словы чула і ад старшыні гарвыканкама Алега Лакцюшына. Апошні раз яна казала яму, што аднавіць балкон дапаможа будаўнічая арганізацыя, дзе яна адпрацавала 30 гадоў. Старшыня ў сваю чаргу адзначыў, што аднаўляць толькі яе адзін балкон не могуць, трэба ўмацоўваць і ўсе астатнія.

Справа ў тым, што адразу пасля абвалу балкона ў Слонім прыязджала мінская камісія. Навукоўцы вывучалі балконы, выпрабоўвалі іх на трываласць. Па словах Марыі Дзеравяннік, мінчане ёй сказалі, што "вашы балконы ўжо даўно павінны пападаць. У доме 70% аварыйных балконаў"...

Сапраўды, было б няправільна лічыць, што ўся праблема толькі ў адным балконе. Зразумела, што і іншыя балконы рабіліся з таго самага матэрыялу, па адной тэхналогіі. І не толькі ў гэтым доме. Сведкі кажуць, што падчас будаўніцтва дваццатага дома ў 1960-х гадах дапускалася шмат памылак, некаторыя будаўнікі нярэдка працавалі ў нецвярозым стане. І гэтая неахайнасць тым больш дзіўная, што ў гэты дом засяляліся, у асноўным, сем'і тых жа самых будаўнікоў!..

Жыхарка дома Людміла Іванаўна Баброўская гаворыць, што пасля праверак жыллёва-эксплуатацыйная служба забараніла жыхарам дома выходзіць на балконы. Гэты факт пацвердзіў начальнік ЖЭС-1 Аляксей Сухарукаў. Па яго словах, такія прадпісанні атрымалі жыхары і суседніх дамоў. Аднак людзі ўсё роўна выходзяць на балконы...

Фота Віталя ГІЛЯ

Рэканструкцыя ж балконаў, у тым ліку і аднаўленне таго, што абарваўся, павінна была адбывацца падчас капітальнага рамонту дома. У Мінску распрацавана адпаведная дакументацыя. Намеснік дырэктара ВА ЖКГ Ніна Ганчарык пацвердзіла, што праект капітальнага рамонту дома быў падрыхтаваны, але пасля яго адклалі. Прычына банальная – у бюджэце няма грошай.

І яшчэ адна дэталь. У дваццатым доме на першым паверсе знаходзяцца дзве крамы, над уваходамі якіх навісаюць бетонныя пліты...

**Сяргей ЁРШ**

РЕЗОНАНС

В интервью с работником ОАО "Слонимская камвольно-прядильная фабрика" Ешану В. Г. ("Газета Слонімская", № 45, 4-10 ноября 1999 года) информация по отдельным вопросам, мягко говоря, не соответствует действительности. Так, например, работникам фабрики, уходящим в отпуск в июне и июле текущего года, отпускные были перечислены в последний рабочий день смены, перед уходом в отпуск, а не через неделю после того, как рабочие были в отпусках.

В качестве комментария можно также добавить, что Ешану В. Г. получил "строгий выговор" за нарушение внутреннего трудового распорядка и контрольно-пропускного режима, а не за распространение газеты "Рабочий". По этой же причине в сентябре 1997 года Ешану В. Г. был объявлен "строгий выговор" с понижением в должности со сменного мастера до рабочего.

**В. ПОЖАРСКИЙ, заместитель директора ОАО "Слонимская камвольно-прядильная фабрика"**

Газета Слонімская
Рэг. нумар 947 ад 24.03.97г.
Заснавальнік і рэдактар Віктар ВАЛАДАШЧУК

Адрас рэдакцыі: 231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5.
Тэлефоны:
рэдакцыі............ 2-14-39
.............(017) 210-87-17
аддзел рэкламы 2-49-39
E-MAIL:gs@irex.minsk.by HTTP://www.irex.minsk.by/gs

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.

Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць.
Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.

Падпісана да друку 24 лістапада 1999г. Час падпісання 8:00.
Надрукавана ў Баранавіцкай узбуйненай друкарні, г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80.

Падпісныя індэксы:
64042 (індывідуальная)
63818 (ведамасная)
Наклад 8000 экз.
Заказ № 3077
© «Газета Слонімская»
Спасылка на "ГС" абавязковая
Ⓡ Матэрыялы публікуюцца на правах рэкламы

 



НАРЫС

# ЧАС СНЕГУ

Зіма сёлета прыйшла нечакана. Такой колькасці снегу ў другой палове лістапада не могуць прыпомніць і старажылы. Здаецца, што цяпер на двары люты, а не канец каляндарнай восені. Непагадзь. Добры гаспадар сабаку на двор не выжане, але мне патрэбна ехаць у вёску.

У пятнічным міжгароднім аўтобусе "Мінск — Ружаны" адразу азадачылі навіной. "Заўтра ні адзін прыгарадны аўтобус не выйдзе ў рэйс — няма бензіну," — паведаміў вадзіцель "Ікаруса". Не дапамагло, значыць, і 100% павышэнне кошту за праезд на выхадныя — ўсё адно бензін купіць аўтобуснікам няма за што. Яшчэ не прыехаў у свае Вострава, а ўжо свярбіць клопат: як гэта будзе вярнуцца назад?.. Тым часам снегу ўсё падвальвала, замятала дарогі, быццам сама прырода хацела канчаткова перакрыць шляхі зносін паміж горадам і вёскай.

З аўтобуса трапіў у белую замець, праз якую ўдалечыні свяціліся вокны дамоў. Злавіў сябе на думцы, што цяпер мяне радуе не святло і прыгажосць першага снегу, як калісьці ў юнацтве, а святло электрычнае, бо ў такое надвор'е адключэнне электраэнергіі — справа ў вёсцы звычайная, а калі яшчэ нешта сапсуецца, то хуткага рамонту не чакай. Зрэшты, свяціліся больш катэджы "новай" вёскі. Старая вясковая вуліца, дзе стаіць і мая родная хата, сустрэла рэдкімі агеньчыкамі. Ці не з палову дамоў тут — пустуюць. Звычайны ўжо для нашага часу малюнак: гаспадары паўміралі, а іх дзеці раз'ехаліся. Праўда, у некаторых хатах жывуць чарнобыльскія перасяленцы. Як кажуць, не было шчасця, дык няшчасце дапамагло...

Дома маці і цётка гутарылі "на вячорках" пра цяперашняе і даўнейшае, пра раннюю зіму і адвечныя вясковыя клопаты. Гэта якраз той выпадак, калі можна даведацца пра ўсе калгасныя і вясковыя навіны. А навіны тыя — хоць плач, хоць смейся.

Калгаснікі чакаюць, што хутка калгас будзе прадаваць ім збожжа. Ажно па 100(!) кг на хату. Паколькі ў гэтым годзе ў "Рассвете" спёка "з'ела" ураджай збожжавых, то па 100 кг — гэта максімум, што калгас можа выдзеліць для сваіх людзей. Маці сказала, што суседка (такая ж пенсіянерка) прыходзіла купіць у яе вядро ячменю для курэй, дык яна не прадала — пазычыла, маўляў, суседка аддасць, калі атрымае тыя 100 кг... Я і не прыпомню, калі гэта такое было, каб на год на хату выдзялялі (па-сутнасці, прадавалі) усяго толькі сто кілаграм збожжа. Людзі ж дзякуюць Богу, што хоць бульба ў гэтым годзе ўрадзіла — можна трымаць свіней...

Неўпрыкмет размова маіх дарагіх жанчын перайшла на тэму пенсій і зарплат у калгасе. Самі яны маюць недзе па 40 гадоў працоўнага стажу і атрымліваюць больш за 12 мільёнаў рублёў пенсіі. Для калгасніка — гэта вялікія грошы. І маці, і цётка сваёй пенсіяй задаволены, кажуць, што сёння той, хто атрымлівае пенсію — заўсёды пры грашах. Іншая справа — зарплата.

Цётчын сын працуе ў калгасе трактарыстам ужо больш за дваццаць гадоў, лічыцца добрым спецыялістам. Нават на раённае спаборніцтва па ворыве, якое праводзілася ў кастрычніку гэтага года, ад "Рассвета" пасылалі менавіта яго. Дык за 24 рабочыя дні ў мінулым месяцы ён атрымаў...6 мільёнаў рублёў. А цёплыя штаны каштуюць 7 мільёнаў. Нават сабе на штаны не зарабіў. А яшчэ патрэбна было б новую ватоўку купіць, бо ўжо трактарыстам не выдаюць зімовую спецвопратку. І тыя знакамітыя целагрэйкі, што шые Слонімскі быткамбінат, — яму не па кішэні. Дык чаму так атрымалася, што высокакваліфікаваны механізатар за месяц працы ў калгасе на штаны сабе не можа зарабіць?.. Мае пенсіянеркі, здаецца, ведаюць ужо, хто ў гэтым вінаваты, адкуль гніе рыба.

І яшчэ адну цікавую гісторыю пачуў я на сямейных вячорках. Мяркую, што гэта плод чыёйсьці фантазіі. Расказалі мне мае жанчыны, быццам бы ў наш "Рассвет" прыязджаў нядаўна нейкі чалавек, які збіраецца купіць увесь калгас!.. Я, канечне, патлумачыў пенсіянеркам, што ніхто іх любімы калгас сёння не купіць, ні з людзьмі, ні без людзей, бо няма ў нашай краіне такога закону, каб калгасамі гандляваць. Але мае словы пра закон іх не вельмі і ўзрадавалі. "Хай бы і купіў, — кажуць, — можа, добры гаспадар, то хоць парадак навёў бы, бо цяпер тут усё даходзіць да ручкі..."

Назаўтра ўвесь дзень валіў снег. Я пакрысе корпаўся па гаспадарцы, але больш чысціў ад снегу падворак, каб маці магла прайсці ў хлеў да каровы, дабрацца да дрывотні і калодзежа. За ўвесь дзень па вуліцы ні разу не прайшоў бульдозер. На жаль, не падмануў і вадзіцель "Ікаруса". Прыгарадныя маршрутныя аўтобусы не хадзілі ні ў суботу, ні ў нядзелю.

Зіма — мёртвы сезон для патанулай у снягах вёскі.

**Мікола КАНАНОВІЧ**

НАВІНЫ

## Чужых кароў да нас не прыгоняць

**З-за недахопу кармоў узнікла складаная сітуацыя з утрыманнем буйной рагатай жывёлы на Віцебшчыне.**

Нядаўна каля 800 галоў перавезлі на зімоўку ў Брэсцкую вобласць. А ці прыгоняць віцебскія кароў на Слонімшчыну? З такім пытаннем карэспандэнт "ГС" звярнуўся да галоўнага заатэхніка ўпраўлення сельскай гаспадаркі Слонімскага райвыканкама Алега Гедзіча. Ён сказаў, што пра гэты факт чуе ўпершыню. На сённяшні дзень у Слонімскі раён з другіх абласцей Беларусі ні адной буйной рагатай жывёліны не прывозілі. За выключэннем хіба саўгаса "Маладая гвардыя", які закупіў каля 200 галоў у Ашмянскім і Іўеўскім раёнах Гродзенскай вобласці, — паведаміў галоўны заатэхнік сельгасупраўлення райвыканкама.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

## Няма жадаючых

**Ужо на працягу месяца сярод насельніцтва Мастоўскага раёна не могуць адшукаць кандыдатуру на пасаду першага намесніка старшыні райвыканкама, кіраўніка аграпрамхарчу раёна.**

Тыя, каму была прапанавана гэтая пасада, далікатна адмовіліся. Іх не прываблівае ні аклад у 47 мільёнаў рублёў, ні недабудаваны катэдж, які застаўся ад былога начальніка, ні перспектыва кіраваць калгасамі ўсяго раёна. Па словах дасведчаных людзей, падобная практыка назіраецца ўпершыню за ўвесь час існавання Мастоўскага раёна.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

## Зэкі дапамагаюць вяскоўцам

**Калгасы Дзятлаўшчыны маюць вялікую патрэбу ў кадрах. Тут не хапае жывёлаводаў, даярак, ветэрынараў, трактарыстаў, вадзіцеляў.**

Таму вяскоўцам дапамагаюць асуджаныя з калоніі, якая знаходзіцца недалёка ад пасёлка Гезгалы.

## Алё! Гэта Дварэц?

**У вёсцы Дварэц Дзятлаўскага раёна хутка пачне працаваць новая электронная тэлефонная станцыя.**

Яна разлічана на 300 нумароў. Тэлефонная сувязь будзе праведзена ў самыя аддаленыя вёскі Дварэцкага сельскага савета.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

НАВІНЫ

## Не доўга "Полька" танцавала

**Днямі ў краме Мастоўскага райспажыўгандлю, упершыню за апошнія два месяцы, завезлі гарэлку з лірычнай назвай "Полька".**

Нягледзячы на тое, што яе кошт складае каля 700 тысяч рублёў, гарэлка была раскуплена літаральна за некалькі дзён.

## Кворум будзе абавязкова

**У саўгасе "Мастоўскі" шмат рабочых выйшлі са складу афіцыйнага прафсаюза.**

Дзеля таго, каб правесці прафсаюзны сход, дырэктар саўгаса Аляксандр Сядляр паабяцаў усім, хто будзе прысутнічаць на сходзе, выплаціць па 500 тысяч рублёў. Пасля гэтага прыняць удзел у мерапрыемстве пагадзіліся амаль усе рабочыя гаспадаркі.

## Рамонт закончаны

**Закончаны рамонт моста праз Нёман у вёсцы Мастыя Правыя.**

Ён працягваўся паўтара гады. Па гістарычных дадзеных, у канцы 20-х гадоў яго пабудавалі ўсяго за восем месяцаў. Рабочыя замянілі дарожнае палатно і пашырылі праезджую частку.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

## Свята сям'і ў бібліятэцы

**У Слонімскай раённай дзіцячай бібліятэцы прайшло свята "Мая сям'я".**

Свята пачала бібліятэкар В.М.Шпінёва расказам пра клуб "Чамучкі", які быў створаны ў снежні 1995 года, і ў якім дзяцей вучаць працаваць з кнігай, самастойна знаходзіць адказы на пытанні.

Упершыню сваіх вучняў у бібліятэку прывяла настаўніца пачатковых класаў СШ №2 Т.К.Крамнік. Прайшлі гады, і цяперашнія шасцікласнікі перадалі эстафету "Чамучак" сваім малодшым сябрам.

Пасля ўступнага слова спадарыні Шпінёвай дзеці разам са сваімі бацькамі разглядалі прынесеныя раней сямейныя фотаздымкі, зробленыя ўласнымі рукамі вырабы (вышыўкі, вязанне, шыццё). Асабліва ўсім спадабалася шкатулка, зробленая У.І.Мулевым. Потым правялі конкурс "Мая радаслоўная", у якім актыўны ўдзел прынялі І.А.Ягаўдзік разам з сынам, В.С.Камышкайла з дачкою, А.І.Сірык з дачкою і іншыя. Дарослыя ўспаміналі пра сваё дзяцінства, дзеці чыталі вершы пра матуль, спявалі і танцавалі. Самым актыўным з іх былі ўручаны прызы.

**Таццяна САНЬКО**

ФЕЛЬЕТОН

# ЭХ, НЯЦЯМЛІ!..

***(Урывак з пісьма жыхара вёскі Даўбешкі Міхася Пундзіка прэзідэнту ЗША Білу Клінтану)***



"...Шаноўны пан прэзідэнт! Не верце Вы беларускай апазіцыі, якая на ўсіх скрыжаваннях крычыць, нібыта мы жывём бедна. Няпраўда! Паслухайце лепш мяне, простага калгасніка. Я вам раскажу ўсё, як ёсць. Некалі мы вельмі зайздросцілі, што ў вас, у Амерыцы, шмат мільянераў. А цяпер вы нам зайздросціць будзеце, бо ў нас усе мільянеры. Нават мы, калгаснікі, кожны месяц атрымліваем не па аднаму, пан прэзідэнт, а па некалькі мільёнаў рублёў! Вашым простым людзям такія грошы і ў сне не сніліся. Іншая справа, што нашы няцямлі не ўмеюць імі распараджацца. Прывыклі некалі цiснуць капейку, дык і цяпер працягваюць. Ходзяць у самым танным адзенні, ядуць бульбу з капустай. Іду я нядаўна па вясковай вуліцы, а насустрач баба Міхаліна з крамы сунецца. У плюшоўку апранута, як і 20 гадоў назад, хустка-канаплянка на галаве завязана.

— Ну, чым атаварылася? — пытаюся.

— Ат, хлеба ўзяла, танных макаронаў ды і ўсё.

— А чаму селядцоў не купіла? Філе рыбы прывезлі ўчора па два з паловай мільёны за кілаграм. Усё грошай шкадуеш. Мільёны пенсіі адграбаеш штомесяц, а на нішчымніцы сядзіш. Ды і дабавілі ж вам, старым, пенсію.

— Ох, не верадзі душу, — махнула кійком Міхаліна і патэпала далей.

Ды што там казаць пра чужых кабет, калі мая цешча не лепшая. Ніякай абноўкі сабе купляць не хоча. Што аддасць мая жонка ці нашы дочкі са свайго пляча, тое і носіць. А якімі грашамі варочае! Кожны месяц атрымлівае ажно сем мільёнаў рублёў пенсіі. Каб ваша амерыканская пенсіянерка столькі атрымлівала, яна б у норкавым футры хадзіла, на цёплыя воды адпачываць ездзіла б. А гэту ж не выпхнеш з хаты. Далей райцэнтра ніколі нідзе не была. То ў агародзе корпаецца, то ў хляве. А як прыйдзе вясна, плойму курanят купіць і кешкаецца з імі, як квахтуха, ледзь не да самай восені. І гэта мільянерка. Смех людзям сказаць!

Я ведаю, пан прэзідэнт, чаму нашы людзі так жывуць. Сквапныя яны. У свеце такіх не знойдзеш. Асабліва гэтыя старыя. Яны ж увесь час капейкі лічылі, а цяпер іх мільёнамі завалілі. Любы з глузду з'едзе ад такога багацця. Яны проста не ведаюць, як грашыма распарадзіцца, куды іх упіхнуць. Я ж кажу, няцямлі. Таму наш урад прыняў вельмі правільнае рашэнне: з новага года пусціць у абарот дробненькія грошы, да якіх старыя людзі прывыклі. Бо, і сапраўды, куды ім мільёны! Яны і палічыць іх як след не могуць.

Між іншым, спецыяльна для такіх няцямляў і робіцца гэта дэнамінацыя. Па шматлікіх просьбах працоўных і, асабліва, пенсіянераў.

Але я ў глыбіні душы сумняваюся, што ад гэтага будзе карысць. Нашы скнары зноў павалакуць свае грошы ў банкі "на чорны дзень" або будуць набіваць імі панчохі. Усё адкладваюць, усё цягнуць, як тая мыш у нару, а не разумеюць таго, што трэба жыць цяпер, а не чакаць "чорнага дня". Але паспрабуй, уталкуй такім, як мая цешча.

Так што ўсё ў нас нармальна, пан прэзідэнт, як у вас кажуць, усё "хокей". А гэтыя апазіцыянеры толькі ваду муцяць, узводзяць паклёп на нашу светлую рэчаіснасць. Такім век не дагодзіш. Мы дык у сваёй вёсцы Даўбешкі іх вельмі не любім. Я нават сваруся з галоўным іх правадыром, конюхам Зінонам.

— І якога ражна табе трэба? Зарплату, пенсіі павышаюць ледзь не кожны месяц. У магазіне ёсць самае неабходнае — віно розных найменняў. Пі, весялі душу, радуйся жыццю.

Ну, сапраўды, што яшчэ простаму чалавеку трэба?

Вось і ўсё, шаноўны пан прэзідэнт! Перадайце прывітанне вашым амерыканскім калгаснікам, раскажыце, як мы тут цудоўна жывём. Але не, лепш не расказвайце, а то бяды не абярэцеся. І яны захочуць атрымліваць такія шалёныя грошы, усе пагалоўна захочуць стаць мільянерамі. Лепш няхай так перабіваюцца, як ёсць. І вам спакайней будзе, і нам на душы светла ад усведамлення таго, што нідзе на планеце няма такога, каб што ні чалавек, то — мільянер!

Санк'ю за ўвагу, пан прэзідэнт! Будзеце ў нашых мясцінах, заходзьце ў госці. Мая хата другая ад магазіна, акурат насупраць вялікай лужыны, дзе плот павалены.

З павагай да Вас Міхась Пундзік з вёскі Даўбешкі"

**Урывак з пісьма перапісаў Раман КАЛЕСНІКОЎСКІ**

Газета Слонімская
25 лістапада — 1 снежня 1999г., № 48 (129)

# СЛУЖБОВЫ ГВАЛТ

**Магчыма, у Слонімскім судзе будзе слухацца справа аб сексуальных дамаганнях аднаго мясцовага кіраўніка да падначаленай.**

Звычайна, падобныя гісторыі больш характэрныя для Заходніх краін і Амерыкі, дзе мужчыны дакладна ведаюць, што любая спроба паўвіхацца за жанчынай без адрыву ад вытворчасці, можа ім каштаваць вялікіх непрыемнасцяў. Але, відаць, і слонімскія жанчыны здольны публічна ахалодзіць пыл сваіх ухажораў-начальнікаў. Праўда, для гэтага неабходны зайздросная адвага і мужнасць. Не ведаю, ці хопіць такой жанчыне гэтых якасцяў.

Нядаўна да карэспандэнта "ГС" па юрыдычную дапамогу звярнулася адна слонімчанка, каб прыцягнуць да адказнасці свайго начальніка, які неаднаразова схіляў яе да ўступлення ў палавую сувязь.

Прыйшлося патлумачыць жанчыне, што, на жаль, наша крымінальнае заканадаўства не дае вялікага спектра варыянтаў вырашэння пытанняў аб сексуальных дамаганнях. Артыкул 116 Крымінальнага кодэксу Рэспублікі Беларусь прадугледжвае "Пазбаўленне волі на тэрмін да трох гадоў за прымушэнне жанчыны да ўступлення ў палавую сувязь або за задавальненне палавой цягі ў непрыстойнай форме асобай, у адносінах да якой жанчына з'яўлялася матэрыяльна або па службе залежнай". Але на практыцы складана даказаць факты сексуальнага прымушэння з боку начальнікаў. Бо ўсё адбываецца звычайна без сведкаў, пры зачыненых дзвярах. Следства і суд могуць не паверыць нават дыктафонным запісам. Знайсці ж сведак сярод падначаленых таго ж самага начальніка таксама вельмі складана. Але яшчэ больш складана даказаць віну, калі самога сексуальнага кантакту яшчэ не адбылося. Бо існуе жалезная логіка — калі згвалтуе, тады і будзем судзіць. І таму жанчыны не бачаць ніякага выхаду з гэтай сітуацыі.

Па словах старшыні Слонімскага суда Міхаіла Мядзведзя, у сваёй юрыдычнай практыцы ён памятае толькі адзін выпадак, калі жанчына звярнулася ў суд з заявай аб схіленні яе да ўступлення ў палавую сувязь з боку начальніка. Прычым зыход гэтай справы быў не на карысць жанчыны.

Быў такі выпадак. Жанчына паскардзілася кіраўніку, што да яе назойліва, нібы муха на мёд, прыстае ягоны намеснік (непасрэдны начальнік жанчыны — **В.Ч.**). Вынік быў несуцяшальны для заявіцелькі: яе не толькі не падтрымалі, але і абвінавацілі ў непрыстойных паводзінах, а таксама ў тым, што гэта яна справакавала мужчыну. Муж таксама не паверыў усяму гэтаму, калі яна шчыра пра ўсё расказала. А сяброўкі па працы і наогул папракнулі: "Што ты з сябе курчыш? Недатыкальная, ці што?".

Звычайна фінал амурнай прапановы можа мець два варыянты развязкі: змена месца працы або "праца з пэўнымі ўмовамі". Першы не заўсёды заканчваецца ўдала для жанчыны. Помслівы кіраўнік, незадаволены тым, што зволненая не пажадала падзяліць з ім пасцель, патэлефануе ці паведаміць пры сустрэчы новаму кіраўніку жанчыны і створыць ёй такую рэпутацыю, што тая зноў вымушана будзе звольніцца з працы альбо прыняць аналагічную прапанову новага працадаўцы.

А вось "праца з пэўнымі ўмовамі" праз некаторы час мяняе псіхалогію жанчыны. Спакушаная аднойчы, яна можа ператварыцца ў прывабную цацку для вышэйшага прыезджага начальства. І, па словах жанчыны, у розных установах і на прадпрыемствах працуюць на розных пасадах супрацоўніцы, якія па загаду кіраўнікоў абслугоўваюць прыезджае падпітае начальства і ў лазні, і на прыродзе, і ў службовых кабінетах...

**Валянцін ЧУРЫЛА**

# НЕ ВЕРНЕШ КРЭДЫТ — ЗАБЯРУЦЬ КВАТЭРУ

**Нядаўна ў Грамадзянска-працэсуальны кодэкс Рэспублікі Беларусь унесены дапаўненні ў той частцы, якая тычыцца жыллёвых праблем.**

У адпаведнасці з указам А.Г.Лукашэнкі № 53 "Аб упарадкаванні прадастаўлення крэдытаў на будаўніцтва, рэканструкцыю і куплю жылых памяшканняў", ільготныя крэдыты выдаюцца пад заклад будуемых ці набываемых памяшканняў. Разам з тым у арт. 5 Закона РБ "Аб закладзе" гаворыцца, што "прадметам закладу не можа быць маёмасць, накіраванне спагнання на якую забаронена заканадаўствам". У дадатку да кодэкса запісана, што "жылы дом з пабудовамі або асобныя часткі жылога дома ці кватэра не могуць быць прадметамі закладу, калі асоба, якая атрымала крэдыт, пастаянна пражывае ў гэтым доме або кватэры".

Дапаўненне, якое прынята нядаўна і ўнесена ў спіс маёмасці, на якое не можа быць накладзена спагнанне, дапоўнена словамі "акрамя выпадкаў, калі спаганяецца крэдыт, выданы банкам на будаўніцтва дома, кватэры, а таксама на рэканструкцыю ці набыццё жылога дома ці кватэры".

Гэта дасць магчымасць гарантыі банкам выдаваць крэдыт для будаўніцтва або паляпшэння жыллёвых умоў грамадзян пад заклад будуемага дома ці кватэры і ў выпадку невяртання крэдыту накласці спагнанне на гэтую маёмасць.

**Валянцін ЧУРЫЛА, юрыст**

# СУД УВАЖАТЬ СЕБЯ ЗАСТАВИТ

**Как сообщил корреспонденту "ГС" старший судебный исполнитель суда г.Слонима и Слонимского района Сергей Игнатик, за десять месяцев 1999 года за неуважение к суду к административной ответственности привлечено 18 слонимчан. Из них 15 человек были арестованы на срок до 15 суток, а трое получили штраф в размере до 10 минимальных зарплат.**

Статья 166-1 Административно-процессуального кодекса РБ предусматривает "наказание в виде штрафа до 10 МЗП или административный арест на срок до 15 суток за неуважение к суду, когда люди злостно уклоняются от явки в суд в качестве свидетеля, потерпевшего, истца, ответчика либо неподчинение указанных лиц и иных граждан распоряжениям председательствующего в суде...".

Например, безработная слонимчанка с ул. Коссовский тракт, Вида Котеленец по приговору суда обязана была возместить ущерб в сумме 83 млн. 366 тыс. руб. Однако ущерб не возмещала и, несмотря на полученные повестки, в суд не являлась. 7 октября 1999 года суд определил ей 10 суток административного ареста. Столько же суток ареста получил и 45-летний житель с улицы Ломоносова г.Слонима Виктор Кизевич, который так же не посчитал нужным явиться по вызову в суд.

А вот житель ул. Коссовский тракт Николай Ерш прибыл для участия в судебном заседании в качестве свидетеля в нетрезвом состоянии, за что был оштрафован в сумме 5 млн.руб.

— Отдельные лица, которые по решению суда обязаны возместить причиненный ущерб, ошибочно полагают, что несвоевременная уплата сумм и инфляция несколько уменьшат их долг, — сказал Сергей Игнатик. — Но дело в том, что указанные суммы подлежат ежемесячной индексации, и их в любом случае придется заплатить, — подчеркнул старший судебный исполнитель.

Отсюда следует, что если человек получил повестку, необходимо явиться в суд к указанному сроку. В противном случае его доставят туда в принудительном порядке.

**Валентин ЧУРИЛО**

Виктор КРИВОЙ,
*доктор юридических наук, независимый эксперт по трудовым, социальным и правовым вопросам*

# ВИДИМО, ЛУЧШЕ ВСЕ ОСТАВИТЬ ТАК, КАК БЫЛО

Не ошибусь, если скажу, что каждый трудящийся Беларуси знает о существовании декрета N 29 от 26 июля 1999 г., предоставившего нанимателям право заключать контракты с любыми работниками, включая рядовых специалистов и рабочих, под предлогом борьбы за укрепление трудовой и исполнительной дисциплины.

Первым официальным шагом в этом направлении стало принятие постановления Совета Министров от 02.08.1999г. N1180, утвердившего примерную форму контракта нанимателя с работником (в дальнейшем — Примерная форма) и установившего минимальную компенсацию за ухудшение правового положения работника.

Спустя два месяца правительство подписало второе постановление на данную тему — N1476 от 25 сентября "Об утверждении положения о порядке и условиях заключения контрактов нанимателей с работниками" (в дальнейшем — Положение). Проанализируем последний документ на предмет его взаимоувязки с предыдущим, а также с декретом. В глаза сразу бросается множество противоречий и неувязок в регулировании одних и тех же вопросов. Остановлюсь лишь на важнейших.

**1.** В пунктах 2.1 — 2.3 и 2.10 декрета установлено, что контракт должен предусматривать:

- срок и периодичность (не реже одного раза в месяц) выплаты заработной платы;
- обеспечение нанимателем повышения квалификации работников;
- проведение аттестации не реже одного раза в три года, если президентом не установлен иной срок;
- десять дополнительных оснований досрочного расторжения контракта по инициативе нанимателя за нарушение работником возложенных на него трудовых обязанностей.

Если же мы даже до дыр зачитаем Положение, то и в этом случае ни одной из процитированных норм и близко не найдем, хотя в нем, как и в декрете, есть специальный пункт (10), посвященный обязательным условиям контракта.

Практические последствия данных противоречий могут быть таковы. Если наниматель включит в контракт только те обязательные условия, которые указаны в Положении, опустив отсутствующие в нем декретные обязательные условия, то работником или профсоюзом в свое время может быть поставлен вопрос о признании контракта недействительным и, например, о восстановлении в связи с этим работника на прежней работе.

**2.** Пункт 1 декрета говорит о том, что действие контрактов может быть прекращено до истечения их срока по основаниям, предусмотренным законодательством или контрактами, а пункт 14.1 Положения допускает возможность таких увольнений по инициативе нанимателя только по дополнительным основаниям, указанным в законодательстве. В результате практические работники начнут ломать головы над вопросом о том, на что делать ссылку в приказе об увольнении и трудовой книжке работника: на законодательство (да еще на какое — КЗоТ, Трудовой кодекс, декрет или Положение) либо на конкретный пункт контракта, где записано дополнительное основание его досрочного расторжения.

**3.** Примерная форма ничего не говорит об ответственности нанимателя за неисполнение своих обязательств, вытекающих из законодательства, коллективного договора и контракта, не забыв, однако, посвятить специальный пункт (10) дисциплинарной, административной и материальной ответственности работника. Положение же (пункт 10.6) требует обязательного отражения в контракте ответственности сторон контракта, то есть ответственности как работника, так и нанимателя.

Если наниматели будут руководствоваться только Примерной формой и не укажут в контракте об ответственности нанимателя, то они нарушат Положение и могут быть наказаны за это, к примеру, штрафом, налагаемым должностными лицами подразделений Комитета по инспекции труда при Министерстве труда.

**4.** В Примерной форме (пункт 5.3) говорится о возможности повышения на основании контракта только должностного оклада, а в Положении (пункт 10.8) и декрете (пункт 2.5) — только тарифной ставки. Таким образом, в одном случае поощряются лишь руководители, специалисты и служащие, чей труд оплачивается на основе окладов, а в другом — лишь рабочие, получающие зарплату, исходя из тарифных ставок.

Руководители организаций поставлены перед непростым выбором: если на основе Примерной формы введешь повышение зарплаты только для специалистов и служащих, то возмутятся рабочие (а мы чем хуже?), если сделаешь наоборот, опираясь на Положение и декрет, то удовлетворенные и возмущенные поменяются местами, но смута в коллективе останется.

**5.** Пункт 11 Примерной формы контракта перечисляет меры по привлечению работников к различным видам ответственности за нарушение трудовой дисциплины (депремирование, уменьшение отпуска, понижение в классе). Однако по сравнению с Положением (пункты 1.5.1—1.5.3) здесь имеется весьма существенное различие. Согласно Положению и декрету, данные меры подлежат применению в императивном (обязательном) порядке, а из примерной формы вытекает, что наниматель не обязан, а лишь имеет право карать провинившихся подчиненных.

Отсюда вытекает, в частности, что если руководитель предприятия будет следовать Примерной форме и, допустим, на первый раз пожалеет нарушителя трудовой дисциплины, то контракт с таким руководителем может быть досрочно расторгнут за неприменение без уважительных причин виновных лиц к установленной законодательством ответственности (пункт 2.10 декрета и пункт 14.1 Положения).

**6.** Положение не дает возможности хоть с какой-то логичностью увязать контракты с укреплением трудовой и исполнительной дисциплины -- целью декрета. Если контракты заключать только с нерадивыми работниками, то непонятно, почему в этих документах должно быть в обязательном порядке записано о повышении тарифной ставки и предоставлении поощрительного отпуска до 5 календарных дней (пункт 10.8 Положения). Зачем поощрять нарушителей?

А если, наоборот, применять контракты только с добросовестными работниками (оставляя с нарушителями обычный трудовой договор на неопределенный срок), с тем чтобы предоставить им упомянутые преимущества, то спрашивается, почему хороший работник ставится по сравнению с плохим в заведомо худшие условия при прекращении контракта. Первого можно запросто уволить (даже беременную женщину!) без объяснения причин, сославшись лишь на истечение срока, либо по как минимум десяти дополнительным, по сравнению с законодательством, основаниям. Для увольнения же второго (плохого) работника и оснований меньше, да еще и требуются законные причины (сокращение штата, несоответствие занимаемой должности, прогул без уважительной причины и т.д.) и доказательства их наличия, а порой и соблюдение определенной процедуры: предупреждение за определенный срок, уведомление или согласие профсоюза и т.п.

**7. В соответствии с пунктом 3.2 Положения, перевод работников, которые ранее трудились по бессрочному договору, на контракт должен осуществляться только при наличии обоснованных производственных, организационных или экономических причин. Представляю, как ломают головы, читая данную фразу, руководители многих организаций.**

**Какие же это можно придумать, например, экономические причины, да еще обосновать их, если на производстве ничего не изменилось: все те же неплатежи, несвоевременная выдача зарплаты, недостаток оборотных средств, устаревшее оборудование и технологии. Не решишь же эти проблемы с помощью контрактов! А если и запишешь подобное в приказе, так суд, прокурор или госинспектор труда едва ли поверят, а наказать могут запросто, признав заключенные контракты незаконными и недействительными.**

Общий вывод: хаос в трудовых отношениях, внесенный декретом и принятыми во имя его исполнения решениями правительства, продолжает нарастать вместе с неизбежными отрицательными последствиями (нестабильностью, противоречивостью, волюнтаризмом, разрушением сложившихся взаимоотношений в коллективах и т.д.). Нормально мыслящие руководители, кадровики и юрисконсульты при всем желании не могут применить контракты так, чтобы не нарушить при этом декрет, Положение или примерную форму, не говоря уже о КЗоТе и Трудовом кодексе, а также о здравом смысле. В результате многие из них приходят к выводу, что безопаснее всего (чтобы, в частности, не вносить разногласия в коллективы или не оказаться наказанными за несоблюдение перечисленных документов, которое, согласно пункту 5 декрета, является грубым нарушением трудовых обязанностей) не вводить контракты с рядовыми работниками и специалистами, а оставить все как было прежде, сославшись на пункт 1 декрета, где сказано, что наниматели имеют право, а не обязаны заключать контракты.

